наша
# свабода

№100(187) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

14 ВЕРАСНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Вацлаў Гавал сустрэўся з Васілём Быкавым

У Празе, у Прэзыдэнцкім Палацы, адбылася сустрэча Васіля Быкава з Прэзыдэнтам Чэшскай Рэспублікі Вацлавам Гавалам. Як патлумачылі нам чэшскія сябры, нягледзячы на тое, што прэзыдэнт мае даволі падрабязную інфармацыю пра апошнія выбары ў Менску, ён выказаў жаданьне даведацца пра сытуацыю ў Беларусі не ад палітыкаў, дыпляматаў ці журналістаў, а ад асобы, якая ёсьць бясспрэчным маральным аўтарытэтам. Быкаў прыляцеў з Франкфурту ў Прагу ў дзень, калі адбылася трагедыя ў ЗША; праграма Гавала на бліжэйшыя дні (ён зьяўляецца Вярхоўным Галоўнакамандуючым), была скарэктаваная. Тым ня меньш, сустрэча адбылася. Дарэчы, нас правялі ў працоўныя пакоі прэзыдэнта, чаго звычайна ў дачыненьні да замежнікаў ня робіцца.

Васіль Быкаў сказаў, што за працягу апошніх гадоў Лукашэнка вынішчыў вакол сябе прававую і палітычную прастору – Канстытуцыя скасаваная, ягоныя рэальныя канкурэнты альбо зьнішчаныя, альбо ў эміграцыі. Лукашэнка супрацоўнічае з сумнеўнымі рэжымамі, гандлюе зброяй, якая засталася ад Савецкага Саюзу. Вынікі бясспрэчна сфальсыфікаваных выбараў прымушаюць меркаваць, што Лукашэнка застанецца ва ўладзе яшчэ на пяць гадоў, а народ будзе паглыбляцца ў бездань дыпрэсіі і застою. Быкаў падзякаваў прэзыдэнту за тое, што Чэхія дае палітычны прытулак актывістам беларускай апазыцыі і магчымасьць працягваць вучобу студэнтам, якія выключаныя з беларускіх ВНУ за палітычную дзейнасьць. Быкаў сказаў, што ў гэты момант для беларускай апазыцыі вельмі важная падтрымка Эўропы і ЗША.


Фота Ул.ЯНДЗЮКА

Вацлаў Гавал адзначыў, што, сапраўды, шмат якія беларусы знайшлі ў Празе другі дом. Выбары ў Беларусі Гавал ацаніў як спосаб усталяваньня «вельмі аўтарытарнага рэжыму, які парушае грамадзянскія свабоды. У мінулыя дзесяцігоддзі за камуністамі мы мелі падобны вопыт у Чэхіі». Гавал, аднак, выказаў спадзяваньне, што цяпер у Беларусі больш шанцаў дамагчыся дэмакратыі, чым мелі ў свой час чэхі, паколькі не існуе ні савецкай імпэрыі, ні Варшаўскага пакту. «Беларускае грамадзства чакае доўгі этап змаганьня за свае правы, але ў ім яно можа разьлічваць на нашую падтрымку», – сказаў прэзыдэнт Чэхіі.

Апошнія словы Гавала выглядаюць не простай фармальнасьцю. У дні, калі цывілізаваны сьвет заяўляе пра абмежаваньне стасункаў з афіцыйным Менскам, сустрэча аднаго з найбольш аўтарытэтных і ўплывовых палітыкаў Захаду з пісьменьнікам, які ў сьвядомасьці эўрапэйцаў увасабляе беларускую нацыю, — знак таго, што Эўропа размяжоўвае лукашэнкаўскі рэжым і беларускі народ і бачыць у Беларусі дэмакратычную пэрспэктыву.

**Сяргей НАВУМЧЫК**

Інфармацыю аб беларускіх грамадзянах, якія знаходзіліся 11 верасня ў Нью-Йорку, можна атрымаць па тэлефонах генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Нью-Йорку: **8-10 (1212) 68-25-392** і МЗС Рэспублікі Беларусь у Мінску: **222-26-62**.

## Ахвяраў сярод беларусаў няма

Пакуль невядома, ці пацярпеў хто-небудзь з беларускіх грамадзянаў у выніку тэрарыстычнага акта ў ЗША. Як паведаміў пасол Беларусі ў ЗША Валерый Цапкала, беларуска, працаваўшая ў Сусветным гандлёвым цэнтры, жывая, бо мела 11 верасня выхадны. Ніхто не пацярпеў і сярод супрацоўнікаў сакратарыята ААН і іх сем'яў, а гэта блізу 50 чалавек.

## 2 гады, як зніклі Ганчар і Красоўскі

16 верасня спаўняецца 2 гады, як зніклі Віктар Ганчар і Анатоль Красоўскі. Да гэтай даты АГП мае намер правесці чарговую акцыю «Ланцут неабыякавых людзей». Яна адбудзецца 17 верасня а 17-ай гадзіне ля прэзідэнцкай рэзідэнцыі.

## Супрацьсухотны праект

У Мінску падпісанае пагадненне, паводле якога Беларусі будзе прадастаўлена Мэтавым фондам распрацоўкі палітыкі і развіцця людскіх рэсурсаў гранта ў памеры 595 тысяч долараў для завяршэння падрыхтоўкі праекта па прадухіленні распаўсюджвання ВІЧ/СНІД і сухотаў. Апрача гэтага, на праект будуць выдаткаваныя 500 тысяч долараў з боку шведскага ўрада.

## Бурштын на чыгунцы

Кантрабандныя бурштынавыя вырабы на некалькі мільёнаў рублёў знайшлі памежнікі падчас дагляду ў пасажырскім цягніку «Калінінград–Масква». Яны былі схаваныя ў вагоне-рэстарацыі ў бачку, дзе захоўваліся супы. Гаспадар бурштыну не азваўся.

## Беларускія плантацыі вінаграду

У Мінску прайшла першая міжнародная выстава «Вінаград-2001». Тут былі прадстаўленыя больш сотні гатункаў вінаграду ў свежым выглядзе, у тым ліку выведзеныя беларускімі селекцыянерамі. На Гродзеншчыне нават закладзеныя першыя прамысловыя вінаградныя плантацыі.

## Адкрыта кніга для запісу спачуванняў

Учора ў 9 гадзінаў раніцы ў амерыканскім пасольстве ў Беларусі адкрыта кніга для запісу спачуванняў ахвярам нядаўніх тэрарыстычных актаў у ЗША. Доступ да яе для ўсіх жадаючых арганізаваны ў рабочы час пасольства да 18 верасня.

Як паведаміў супрацоўнік амерыканскай дыпламатычнай місіі, у пасольства прыходзіць мноства людзей. Яны прыносяць кветкі, пакідаюць запісы ў кнізе, выказваюць спачуванні родным і сваякам ахвяраў тэрарыстаў. Наведвальнікаў вітае асабіста пасол ЗША Майкл Козак і іншыя дыпламаты.

Сярод наведвальнікаў у пасольстве ЗША пабывалі жонкі бясследна зніклых беларускіх палітыкаў, прадстаўнікі беларускіх грамадскіх арганізацыяў.

**БелаПАН**


Фота Ул.ШЛАПАКА

## КДБ змыкае кола вакол Лукашэнкі

*У сераду А.Лукашэнка правёў некаторыя кадравыя перастаноўкі ў прэзідэнцкай адміністрацыі. У выніку асноўныя пасады аказаліся занятымі людзьмі з КДБ.*

### Прызначэнні

Новым кіраўніком прэзідэнцкай адміністрацыі стаў Урал Латыпаў. Выпускнік вышэйшых курсаў КДБ, якія ён заканчваў у Мінску, гэты афіцэр расійскага паходжання знаходзіцца «недзе побач» з А.Лукашэнкам увесь час ягонага кіравання краінай. Да апошняга прызначэння У.Латыпаў працаваў дзяржаўным сакратаром Савета Бяспекі.

Вызваленую пасаду Дзяржсакратара заняў Генадзь Нявыглас, які раней кіраваў Службай бяспекі прэзідэнта.

Першым намеснікам кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі стаў генерал-маёр Станіслаў Князеў. Адзначым, што апошнія некалькі гадоў ён знахозіўся «ў фаворы» беларускага кіраўніка. Дарэчы, С.Князеў, як і У.Латыпаў, паходзіць з Расіі і мае вышэйшую КДБшную адукацыю. На пасаду першага намесніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта, адказнага за ідэалогію, ён таксама быў пераведзены з Савета бяспекі, дзе С.Князеў быў намеснікам У.Латыпава.

Прэзідэнцкая адміністрацыя ўзмоцнілася таксама адным пераводам з Савета міністраў. Пасаду намесніка кіраўніка адміністрацыі, адказнага за працу з кадрамі, заняў Леанід Козік. Раней ён меў гучны тытул Паўнамоцны прадстаўнік прэзідэнта – намеснік прэм'ер-міністра. З апошніх прызначэнцаў ён адзіны — «цывільны».

Як бачым, адбылося істотнае ўзмацненне прэзідэнцкай адміністрацыі людзьмі са спецслужбаў. Што гэта – даніна апошняй палітычнай модзе суседняй Расіі або падрыхтоўка да маштабнай абароны?

Відавочна, што якасны склад адміністрацыі значна палепшыўся. Урал Латыпаў мае дзве вышэйшыя адукацыі – юрыдычны факультэт Казанскага універсітэта і Вышэйшыя курсы КДБ СССР, абараніў доктарскую дысертацыю ў галіне юрыспрудэнцыі, прафесар. Біяграфія адзначае, што ён мае вялікі досвед працы ў тэрытарыяльных органах КДБ, валодае англійскай і французскай мовамі. Амаль два гады кіраваў міністэрствам замежных справаў.

Станіслаў Князеў – кандыдат юрыдычных навук, былы кіраўнік беларускай контрразведкі. Пасля займаў пасаду кіраўніка Інстытута нацыянальнай бяспекі. У сакавіку гэтага года прадстаўляў новую Канцэпцыю нацыянальнай бяспекі, у лік аўтараў якой ён уваходзіць.

Разам У.Латыпаў і С.Князеў займаліся рэарганізацыяй Савета бяспекі з структуры прамога дзеяння ў інфармацыйна-аналітычны цэнтр. Трэба разумець, рэарганізацыя ўдалася, і цяпер абодва будуць пераўтвараць прэзідэнцкую адміністрацыю ў новы Савет бяспекі Беларусі. І значыць, беларускае кіраўніцтва рыхтуецца да цяжкіх часоў.

### Адстаўкі

Самай гучнай адстаўкай сталася замена кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі.

*Заканчэнне на стар.3*

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1500**

# КДБ змыкае кола вакол Лукашэнкі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Міхаіл Мясніковіч нязменна працаваў на гэтай пасадзе ажно ад 1995 года. Яго безліч разоў «адпраўлялі» ў адстаўку, але кожны раз М.Мясніковіч утрымліваўся ў сваім крэсле.

Цяперашняя сінекура ў ролі «памочніка прэзідэнта па асаблівых даручэннях», відавочна, не будзе задавальняць амбіцыяў былога кіраўніка адміністрацыі.



Урал Латыпаў



Станіслаў Князеў

Па некаторых звестках, М.Мясніковіч быў практычна гатовы выставіць сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах. Невядома, што яму перашкодзіла – ці гэта была прыродная асцярожнасць, ці пралукашэнкаўскія сілы яго «прыхапілі на гарачым»... Але замест М.Мясніковіча на выбары пайшоў тагачасны амбасадар Беларусі ў Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі Міхаіл Марыніч. Нядаўна ён прагаварыўся, дарэчы, што, маўляў, на выбары мусіў ісці нехта зусім іншы, але ў апошні момант ўсё перайгралі. Чым скончылася эпапея М.Марыніча – вядома; яму не ўдалося дабіцца, каб Цэнтрвыбаркам прызнаў сабраныя 100.000 подпісаў у ягоную падтрымку.

Як бы там ні было, але А.Лукашэнка не пажадаў больш трымаць побач з сабой патэнцыйна небяспечнага «канкурэнта».

Міхаіл Мясніковіч ведае замнога пра цяперашняга кіраўніка дзяржавы, каб можна было проста выставіць яго за дзверы рэзідэнцыі на Карла Маркса, 38. Так нядоўга і новага апазіцыянера атрымаць. Таму для яго знайшлі іншую пасаду, якая дазволіць трымаць былога кіраўніка адміністрацыі пры сабе.

Услед за М.Мясніковічам з адміністрацыі адправілі двух ягоных намеснікаў – Уладзіміра Замяталіна (першы намеснік, ідэалогія) і Юрыя Сівакова (кадры). Фармулёўка для ўсіх трох адна і тая ж – «у сувязі з пераходам на іншую працу». Але гэтую новую працу знайшлі пакуль толькі для аднаго. Для У.Замяталіна і Ю.Сівакова пакуль шукаюць вакантныя пасады ў іншых структурах.

Як вядома, за некалькі месяцаў да пачатку выбараў У.Замяталін называўся ў якасці «хроснага бацькі» кандыдата ў прэзідэнты Наталлі Машэравай і адначасова ў якасці «агента Масквы» ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі. Магчыма, што гэта таксама не спадабалася А.Лукашэнку. Ведаючы, наколькі У.Замяталін апантаны ідэяй славянскай інтэграцыі, можна было б прапанаваць яму нейкую пасаду ў органах міфічнай Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. З іншага боку, пасля нечаканай смерці Валерыя Скварцова застаецца вакантным крэсла кіраўніка Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. Як «дасведчаны ідэолаг», У.Замяталін цалкам можа прэтэндаваць на тое, каб заняць гэтую пасаду.

З другога боку, нават у прэзідэнцкай адміністрацыі мусяць усведамляць, што з прыходам на тэлебачанне і радыё чалавека з замашкамі кантужанага zампаліта дзяржаўныя электронныя мас-медыя прыйдзецца проста пахаваць. І так не самы высокі, мякка кажучы, рэйтынг БТ, рызыкуе стаць проста нулявым. Тое ж можа датычыць і Беларускага радыё.

Магчыма, што былы «сілавік» Юры Сівакоў стаў-такі ахвярай скандальнага выкрыцця пра «эскадроны смерці» – брыгады байцоў, якія займаліся знішчэннем палітыкаў і іншых асобаў, няўгодных уладзе. Паводле інфармацыі, якая была абнародаваная ў апошнія месяцы, менавіта Ю.Сівакоў быў «аўтарам» ідэі такога атрада. Відавочна, што ўсе гэтыя скандалы значна папсавалі імідж А.Лукашэнкі ў вачах як беларусаў, так і міжнароднай супольнасці. Ю.Сівакоў цалкам можа разглядацца як вінаваты, бо не здолеў забяспечыць захаванне таямніцы.

Але яго не пакрыўдзяць. Як вядома, аднойчы Ю.Сівакова, тады – міністра ўнутраных справаў, ужо адпраўлялі ў адстаўку. І што? Ён пачакаў некалькі месяцаў, на свайго былога патрона бруд не ліў, і ў выніку атрымаў утульнае месцейка ў адміністрацыі прэзідэнта. Гісторыя, як вядома, мае тэндэнцыю паўтарацца.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

ТЭНДЭНЦЫІ

# Власть избегала наблюдения

На пресс-конференции Гражданской инициативы «Независимое наблюдение» журналистам свои оценки процесса голосования высказали ее соокординатор Мечислав Гриб, председатель ОО «Республиканский клуб избирателей» Владимир Гудеев, председатель «Белорусского Хельсинкского комитета» Татьяна Протько, областные координаторы Аванес Мурадян (Могилёв), Инна Апанасенко (Брест).

«В связи с тем, что координаторы наблюдения и сами наблюдатели подвергались огромному давлению со стороны властей, мы не имеем полных данных о том, сколько и за кого проголосовало на участках, как это планировали», – сказал Мечислав Гриб. Сегодняшняя информация о выборах, которой располагают наблюдатели, зачастую, – по словам М. Гриба, – была получена в доверительном порядке от отдельных членов комиссий.

«На сегодняшний день мы можем констатировать, что наблюдатели, даже те, которые могли присутствовать на участках, не имели доступа к результатам подсчёта голосов. Поэтому те числа, которые даны в официальных протоколах, не являются правдивыми», – заявила председатель РОО «Белорусский Хельсинкский комитет» Татьяна Протько. – У этих выборов нет результата. Власть сорвала не только наблюдение, но и сами выборы, так как все три условия ОБСЕ к демократической процедуре президентских выборов не были соблюдены».

Владимир Гудеев сказал, что если углубиться в цифры, то получается, что сумма проголосовавших в день выборов, проголосовавших с выездной урной и проголосовавших досрочно, не совпадает с количеством проголосовавших в целом. «Поэтому надо думать, откуда появились эти цифры и что за ними стоит». Также председатель ОО «Республиканский клуб избирателей», отметил, что, «несмотря на заявление г-жи Ермошиной о том, что наблюдатели будут везде иметь доступ и нам скажут, сколько людей проголосовало досрочно и за кого, нам практически везде отказали».

Таким образом, представители ГИ «Независимое наблюдение» на сегодня имеют сведения по 60-70% избирательных участков. Исходя из этого, по словам координаторов наблюдения, можно утверждать, что данные ЦВК и наблюдателей значительно расходятся. М.Гриб привёл пример досрочного голосования «официально – 14 % проголосовало досрочно, наблюдатели свидетельствуют о том, что более 20%».

Мечислав Гриб также сказал, что, несмотря на «препятствия и трудности, с которыми пришлось нам столкнуться», необходимо учесть, что кампания независимого наблюдения привлекла 16.000 человек к построению гражданского общества в Беларуси.

**Пресс-служба ГИ «Независимое наблюдение»**

# Дзерыпаска прыехаў за МАЗам

Гонар беларускага аўтамабілебудавання – Мінскі аўтамабільны завод – хутка можа стаць маёмасцю расійскага алігарха. Паводле некаторых звестак, гэтую цану А.Лукашэнку давядзецца заплаціць за падтрымку ягонага рэжыму Расіяй. Зрэшты, для захавання ўлады хутка яму давядзецца ахвяраваць не толькі МАЗам.

У аўторак у Беларусь прыехала дэлегацыя з Яраслаўскай вобласці Расіі. Як паведаміла расійскае выданне «Время новостей», разам з губернатарам Яраслаўскай вобласці Анатолем Лісіцыным Мінск наведаў і гаспадар групы «Сибирский алюминий», самы малады алігарх Расіі Алег Дзерыпаска (яму ўсяго 33 гады). Алігарх прапануе набыццё «СибАлом» пакета акцыяў МАЗа.

Па некаторых звестках, кантрольны пакет акцыяў будзе каштаваць А.Дзерыпаску каля 50 мільёнаў долараў. Расійскія крыніцы паведамляюць, што здзелка мусіць быць практычна гатовая, і цяпер няма толькі канчатковай згоды кіраўніцтва Беларусі.

Пасля набыцця МАЗа прадпрыемства будзе ўключанае ў склад холдынга «РусПромАвто», які знаходзіцца пад кантролем «Сибирского алюминия». Холдынг ужо валодае альбо кантралюе такія прадпрыемствы, як Яраслаўскі маторны завод, з якім, дарэчы, МАЗ супрацоўнічае ўжо 55 гадоў, ГАЗ, ЛіАЗ, ПАЗ і ГолАЗ.

Паставіўшы пад свой кантроль ЯМЗ, група «СибАл» зрабіла вельмі вялікі крок да набыцця МАЗа, бо 90% рухавікоў МАЗ набывае менавіта ў Яраслаўлі. Па некаторых ацэнках, беларускі аўтагігант мае ў Расіі каля 30% рынку цяжкіх грузавікоў.

Спачатку беларускім уладам не вельмі спадабалася ідэя продажу МАЗа, бо А.Дзерыпаска вядомы як «агрэсіўны» алігарх, якога не цікавіць развіццё прамысловасці, а толькі хуткае атрыманне прыбыткаў. Але ўсе парады экспертаў разбіліся аб сцяну неплацёжаздольнасці беларускага рэжыму, якому смяротна патрэбныя грошы для падтрымання ілюзіі стабільнасці ў грамадстве.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# «ПАГОНЮ» арыштавалі зноў

12 верасня ўвечары Гродзенская абласная пракуратура арыштавала наклад — 8.132 асобнікі — чарговага, 37-га, нумара гродзенскай недзяржаўнай газеты «Пагоня».

У друкарню, дзе друкуецца «Пагоня», з'явіліся супрацоўнікі пракуратуры і прад'явілі санкцыю на выманне накладу газеты, падпісаную следчым абласной пракуратуры Алегам Кулевічам. Ніякіх тлумачэнняў прычынаў арышту другога запар нумара газеты рэдакцыя не атрымала. Ёсць сведчанні, што пракуратуру зацікавіў літаратурны твор «Абяшчал! Абяшчаю! Буду абяшчаць!», надрукаваны ў газеце.

Каментуючы гэтую сітуацыю, рэдактар «Пагоні» Мікола Маркевіч адзначыў, што пракуратура не ўзбудзіла крымінальнай справы па арыштаваным нумары. Паводле тлумачэнняў следчага, выманне чарговага нумара газеты адбылося ў сувязі з крымінальнай справай, узбуджанай абласной пракуратурай 5 верасня па факце з'яўлення ў 36-м нумары «Пагоні» матэрыялаў, дзе нібыта ўтрымліваецца паклёп на прэзідэнта. У такім выпадку, на думку Міколы Маркевіча, санкцыя пракуратуры на выманне новага нумара газеты з'яўляецца незаконнай, бо ў пастанове аб узбуджэнні крымінальнай справы 5 верасня значылася канкрэтна, што яна датычыцца толькі нумара 36.

У той жа дзень, 12 верасня, пракуратура забараніла супрацоўнікам друкарні друкаваць нумар газеты за тыя грошы, якія засталіся на рахунку друкарні ад папярэдняга арыштаванага нумара газеты. Забароненае было таксама выкарыстанне і паперы, закупленай «Пагоняй», якая знаходзілася на захаванні на складзе друкарні.

Мікола Маркевіч звярнуў увагу на тое, што ўжо другі запар нумар газеты арыштоўваецца, яшчэ не выйшаўшы з друкарні.

«Гэта можа азначаць адно: у Гродзенскай вобласці на нейкім этапе знаходзіцца цэнзар, які чытае калі не ўсю прэсу, што выходзіць у вобласці, дык «Пагоню» дакладна, і ад яго залежыць, ці выйдзе газета ў свет». «Светлае» мінулае вяртаецца хутчэй, чым яго чакалі.

**Павел ІВАНЁНАК**




никовым». | 18.40 Свобода слова. | никовым». | 11.00 Сегодня. | никовым». | 11.20 Фильм Георгия Данелия | никовым».

# Хроника расследования терактов в Нью-Йорке и Вашингтоне

Как сообщает *Washington Post* со ссылкой на директора ФБР и других официальных лиц, в террористической операции были задействованы от 12 до 24 человек. По словам министра юстиции Джона Эшкрофта, в каждом из четырех захваченных самолетов находилось от 3 до 6 террористов. *Los Angeles Times* сообщает, что установлены личности 50 подозреваемых, так или иначе связанных с подготовкой террористической операции, местонахождение 10 из них неизвестно, остальные либо выслежены, либо погибли во время терактов. По данным других источников, установлены личности от 4 до 10 подозреваемых, среди них обладатели паспортов Египта, Саудовской Аравии, ОАЭ.

В Бостоне и Флориде были задержаны несколько человек.

Подтверждена информация о перехвате телефонных переговоров исполнителей терактов – эти записи свидетельствуют об их связи с бин Ладеном.

В Нью-Йорке при обысках найдено несколько предсмертных записок, оставленных террористами.

Подтверждается информация о том, что многие из предполагаемых террористов (по данным *LA Times* – 27) прошли летную подготовку в США. Следствие вплотную занимается летными школами во Флориде – *Embry-Riddle Aeronautical University* в городе Дейтона-Бич, *Huffman Aviation International* в городе Венис и *FlightSafety International* в городе Виро-Бич. Проведены обыски в домах, где квартировали подозреваемые.

Квартирные хозяева поведали журналистам множество подробностей об арабах, учившихся на пилотов во Флориде. Курсанты неохотно о себе рассказывали, некоторые из них не отличались вежливостью и аккуратностью, но серьезных конфликтов с хозяевами у них не было. В школах о них сложилось хорошее впечатление.

*CNN* сообщает имена двоих братьев-пилотов из Саудовской Аравии, снимавших жилье в Виро-Бич. При обыске в доме найдена фотографии и дипломы летчиков на имя Аднана и Амира Бухари. Они жили во Флориде с женами и детьми. Братья Бухари уехали из города в конце августа, а семья их соседа, также подозреваемого в теракте, съехала только за два дня до трагедии. Идет розыск родственников курсантов-арабов.

Двое других подозреваемых террористов – Мохаммед Атта и Марван Юсеф Альшехайи, обладатели паспортов ОАЭ. Ранее у Атты были водительские права, выданные в Египте. Оба обучались в летной школе *Huffman Aviation International*. В машине, взятой на прокат Аттой, обнаружены важные улики, в том числе пособия по летному делу.

Атта и Марван заплатили каждый по 10.000 долларов за обучение в международной летной школе *Huffman* с июля по ноябрь 2000 года.

По данным следствия, «Боинг», разбившийся в Пенсильвании, должен был атаковать президентскую резиденцию в Кэмп-Дэвиде или самолет главы государства (*Air Force One*). Не исключено, впрочем, что он направлялся на некий объект в Вашингтоне. Самолет, упавший на Пентагон, изначально направлялся на Белый дом, однако в последний момент совершил резкий разворот.

В охоте на террористов только ФБР задействовало 4.000 агентов и 3.000 человек вспомогательного персонала. Спецслужбы США получают помощь от дружественных иностранных разведок.

Более 400 экспертов-криминалистов из ФБР работают на местах катастроф.

Важнейшая часть операции – проверка в аэропортах, откуда вылетели захваченные самолеты, – в Бостоне, Ньюарке и аэропорту Даллеса (Вашингтон). Агенты ФБР работают также в аэропорту Портленда (штат Мэн), откуда утром 11 сентября двое подозреваемых прилетели в Бостон, где пересели на самолет до Лос-Анджелеса. Проверяются не только списки пассажиров, но и машины на стоянках в аэропортах. В автомобилях, оставленных на стоянках в Портленде и Бостоне, были обнаружены важные улики, в том числе пособия по управлению самолетом на арабском языке. Записи в бюро проката автомобилей в Портленде и Массачусетсе позволили выйти на след четырех пилотов-террористов, обучавшихся в Виро-Бич.

Возможно, не все террористы были знакомы друг с другом – чтобы избежать утечек информации. Роль каждого была заранее оговорена, и они начали операцию по сигналу. Семь авиабилетов для предполагаемых террористов были оплачены одной кредитной карточкой – ее владелец задержан в Бостоне. На данный момент это одна из важнейших улик. В деле фигурируют также счета за обучение в летных школах.

В ночь на 13 сентября проведены обыски в трех квартирах в Гамбурге (Германия), где до февраля этого года проживали несколько арабов. По данным спецслужб, некоторые из них впоследствии учились в летной школе во Флориде.

Двое из террористов приехали в США из канадской провинции Новая Шотландия. Они прибыли на пароме в Бар-Харбор (штат Мэн). Королевская конная полиция Канады и Интерпол оказывают содействие американцам в выяснении канадских маршрутов террористов.





## Подвиг пассажиров угнанного «Боинга»

Незадолго до того как самолет компании *United Airlines* рухнул на поле в Пенсильвании, пассажиры на борту провели голосование и, по-видимому, решили пожертвовать собой, чтобы предотвратить еще более страшную трагедию. Некоторые из них позвонили своим близким из обреченного самолета, чтобы попрощаться и сказать, что самолет захвачен и что они собираются «что-то предпринять».

Проанализировав несколько прощальных звонков по мобильным телефонам, следствие пришло к выводу, что пассажиры знали о том, что угонщики собирались направить самолет на какую-ту цель в Вашингтоне.

Пассажиры сделали отчаянную попытку помешать террористам силой. Предполагается, что несколько людей бросились к кабине пилотов и вступили в схватку с угонщиками, от чего самолет потерял управление и упал на землю. Один из пассажиров, Томас Бернетт, сказал своей жене Дине: «Я знаю, что мы все погибнем, – тут мы трое собираемся что-то предпринять». Перед тем как разговор прервался, он успел выговорить: «Дорогая, я тебя люблю».

## Мэр Нью-Йорка: Жертв не менее 20 тысяч

В Америке объявлен пятидневный траур по жертвам терактов в Нью-Йорке, Вашингтоне и Питтсбурге. К скорбящим американцам присоединились граждане других государств, готовые предоставить кровь и средства для помощи пострадавшим. Но число раненых не увеличивается, а надежда найти выживших постепенно тает.

По указу президента Джорджа Буша в США объявлен пятидневный траур в знак памяти десятков тысяч погибших в результате терактов на территории страны.

Над федеральными учреждениями во всех американских городах, на всех военных объектах и над зданиями всех посольств США государственные флаги останутся приспущенными до захода солнца в воскресенье, 16 сентября.

Но надежда отыскать под руинами двух башен Всемирного торгового центра выживших тает с каждым часом, хотя 18 спасательных команд ни на минуту не прекращают разгребать завалы. Один из пожарных рассказал *BBC*, что потерял счет трупам, которые ему пришлось вытаскивать из-под развалин. По данным *AP*, около тысячи человек сейчас находятся в больницах Манхеттена и более двух тысяч были перевезены в медицинские учреждения соседнего штата Нью-Джерси. Сравнительно небольшое количество раненых, по мнению представителя больницы *St.Vincent*, говорит о том, что большинство пострадавших от теракта в Нью-Йорке уже мертвы. Накануне с места трагедии в эту больницу было доставлено 82 трупа. Для перевозки тел погибших Федеральное агентство по чрезвычайным ситуациям потребовало еще 6 тыс. пластиковых мешков.

По данным мэра Нью-Йорка Рудольфа Джулиани, количество жертв составит не менее 20 тысяч человек.

В среду днем проведению спасательных работ помешало обрушение остатков северной башни высотой в 7 этажей. После падения последних обломков небоскреба из-под руин перестали доноситься какие-либо сигналы выживших людей. Ранее они пытались связываться со спасателями с помощью мобильных телефонов.

Из-за угрозы терактов была проведена эвакуация людей в другом квартале Нью-Йорка. Появились подозрения, что знаменитый *Empire State Building* и железнодорожный вокзал *Pennsilvania Station*, расположенные в районе 42 улицы, также стали объектами террористов.

Однако позднее представитель полиции пояснил, что собаке, натасканной на распознавание взрывчатки, «что-то показалось», и поэтому она сделала стойку.

## Багдад нанял бин Ладена отомстить США

Иракское правительство наняло «террориста номер один», миллиардера Осаму бин Ладена и его помощников для организации и осуществления терактов на территории США, сообщает газета *The World Tribune* со ссылкой на источники в израильской разведке.

Официальные лица Израиля и представители спецслужб страны заявили, что осуществить в Соединенных Штатах теракты такого масштаба не под силу какой-либо группировке. По словам аналитиков, эта операция также не под силу и коалиции исламских террористов под предводительством бин Ладена.

Ирак – наиболее очевидный спонсор такой атаки. Багдад уже давно стремился к альянсу с бин Ладеном и исламистами, отмечают израильтяне.

Между тем кабинет министров Израиля был проинформирован о том, что в ближайшие дни США могут нанести удары по Ираку и Афганистану.

## Теракты будут стоить страховщикам 30 миллиардов долларов

Последствия террористических актов в США вызовут крупнейший в истории объем страховых требований, который может составить около 30 миллиардов долларов, сообщает агентство *Bloomberg*.

Перестраховочная компания *Munich Re* ожидает, что ее обязательства в результате терактов в США, включая страхование жизни, потери бизнеса, убытки авиакомпаний, а также стоимость разрушенных зданий, могут составить сумму около 1 миллиарда евро (910 миллионов долларов).

Объем страховых обязательств компании *Swiss Re* может быть равен около 720 миллионов долларов. Эти две компании являются крупнейшими перестраховочными компаниями в мире.

Немецкая компания *Allianz*, являющаяся второй по величине в Европе страховой компанией, заявила, что она ожидает страховых требований в объеме 635 миллионов долларов.

## Террорист против США

Осама бин Ладен объявил «*священную войну*» США, передает *CNN*. Тем временем, международные организации продолжают эвакуацию своих сотрудников из Кабула. По сообщению телекомпании, правительство ФРГ рекомендовало гражданам Германии покинуть Афганистан.

## В Пентагоне погибли от 100 до 200 человек

По последним данным, число жертв падения пассажирского самолета на здание Пентагона колеблется между 100 и 200. Ранее называлась цифра 800 человек.

## Белый дом был целью

Пресс-секретарь Белого дома Ари Флейшер заявил, что самолет, упавший на Пентагон, террористы первоначально планировали направить на Белый дом, сообщает *CNN*.

## 20 миллиардов – на ликвидацию последствий

В среду влиятельные члены Конгресса США приняли решение о подаче запроса на выделение 20 миллиардов долларов на ликвидацию последствий терактов. Об этом сообщил член Палаты представителей Конгресса США республиканец от штата Флорида Билл Янг. Проект был официально представлен Палате представителей вчера, передает *CNN*.

## Афганский пилот обучил 14 исламистов

Бывший пилот афганской авиакомпании, имя которого не называется, сообщил в четверг, что он обучал пилотированию гражданских самолетов, в том числе *Boeing*, 14 исламистов. У некоторых из них были европейские паспорта. Об этом сообщила газета *Asharq al-Awsat*, офис которой базируется в Лондоне.

Бывший пилот также сообщил, что около года назад эти люди покинули Афганистан, завершив обучение. Пока непонятно, принадлежали ли эти лица к организаторам и исполнителям терактов, совершенных в США. Среди обучавшихся были пакистанцы, афганцы и арабы. Многие из них бегло говорили по-английски.

## Талибы угрожают повторением терактов

Любые американские удары по Афганистану в отместку за проведенные в Нью-Йорке и Вашингтоне теракты лишь посеют ненависть в регионе. С таким заявлением выступило в среду руководство движения «Талибан», которое контролирует большую часть территории Афганистана.

Официальный представитель талибов Абдул Хаи Мутмаен отметил, что атаки США могут привести к повторению подобных нападений камикадзе. Он напомнил о позиции движения «Талибан», которое называет происшедшее в Нью-Йорке и Вашингтоне «человеческой трагедией», вновь отметив, что известный международный террорист Осама бин Ладен не причастен к этим терактам. «На протяжении двух лет он не имеет доступа к факсу, телефону и другим средствам связи», – сообщил представитель талибов.

Мутмаен призвал к сдержанности, поскольку расследование укажет на тех, кто стоит за этими терактами.

## Эксперты не верят в тяжелые последствия для экономики США

В четверг известная финансово-аналитическая компания *Standard & Poor's* (*S&P*) сообщила, что произошедшие в США теракты вряд ли будут иметь тяжелые продолжительные по времени последствия для американской экономики. Президент *S&P* Лео О'Нейлл заявил: «Наши экономические и финансовые аналитики продолжают изучать сложившуюся ситуацию, и мы приходим к заключению, что серия терактов не будет иметь продолжительных последствий для мировых финансовых рынков», передает *Reuters*.

НАВУКА

## Всем христианам готовится сюрприз

Ученые Ватикана готовятся внести изменения в текст Библии, чтобы добавить в нее сведения, содержащиеся в Кумранских свитках. В этом месяце в Италии соберутся теологи и историки, которые будут обсуждать определенные добавления в библейские тексты новых деталей о жизни и эпохе Иисуса Христа, пишет газета «Гардиан». Все изменения должны быть одобрены главой Конгрегации по вопросам вероучения кардиналом Йозефом Ратцингером.

Первые древние свитки были обнаружены в Кумране в 1947 году совершенно случайно пастухами, а затем при целенаправленном поиске их стали находить при раскопках древних поселений по всему побережью Мертвого моря. Эти рукописи, общее число которых составляет около восьмисот, принадлежали последователям аскетической иудейской секты ессеев. Все они датируются от 170 года до н.э. до 68 года н.э.

Ватикан неоднократно обвиняли в том, что он держит Кумранские тексты в секрете, поскольку они противоречат церковной истории и официальной версии возникновения христианства. По словам теолога-доминиканца Джанлуиджи Боски из университета Св. Фомы Аквинского в Риме, изучение свитков и публикация ранее недоступных текстов означают, что некоторые изменения в текстах Библии будут радикальными. Дж.Боски, который примет участие в обсуждении поправок, которые предполагается внести в Священное писание, отметил, что этот проект свяжет «полную картину происхождения христианства» с кумранскими свидетельствами.

**Магдалена ВОЙСКАЯ**

ПАЧУЦЦІ

## Собачье благородство

Простой четырехлетний пес по кличке Питие, что на итальянском языке означает Милосердный, уже третий год подряд регулярно посещает могилу своего бывшего молодого хозяина в городке Монтиньозо в провинции Масса Каррара. Эта сентиментальная история затронула сердца местных жителей, которые с большим сочувствием и переживаниями наблюдают за визитами верного пса к могиле хозяина, у которой он садится и, замерев, отдается печальным чувствам. По настоянию сочувствующих горожан кладбищенские сторожа перестали препятствовать Питие в его навещаниях места скорби. Более того, по требованию матери хозяина пса мэрия Монтиньозо решила пересмотреть правила посещения кладбища и разрешить посетителям являться туда с собаками, которых знали покойные, «при соблюдении всех гигиенических мер и мер безопасности». Благородное поведение Питие устыдило и многих местных людей, которые стали чаще приходить к могилам своих родных и близких.

**Алесь СИАМОВ**

# Граф Дракула и классовая борьба

**Андрей КОРНЕА, ведущий румынский политический комментатор**

*Недавно кузены бывшего румынского короля Михаила обратились с просьбой вернуть им во владение замок Брэн. Замок Брэн некогда принадлежал принцессе Илине, тете короля Михаила. В 15 веке его владельцем был Влад по кличке «Сажающий на кол», более известный как Дракула. Но наследники этого графа-вампира не одиноки в своем стремлении вернуть себе семейную собственность, конфискованную полвека назад коммунистами. Однако, создается впечатление, что с появлением подобных притязаний старая классовая война также возрождается.*




По всей Румынии городские ратуши осаждаются людьми, выдвигающими аналогичные требования – включая самого бывшего короля Михаила. Наследники крупнейших промышленников Румынии довоенных времен также хотят вернуть себе свою собственность.

В большинстве посткоммунистических стран вопросы, связанные с реституцией, или возвращением собственности, национализированной коммунистами, были улажены в течение первых лет демократического правления. Но Румыния растранжирила десять лет, прошедших с момента окончания эпохи коммунизма, и только сейчас столкнулась лицом к лицу с этой проблемой. Эта задержка только еще больше обострила проблему, поскольку простые люди заявляют, что раз никто не предлагает компенсировать их потери, понесенные при коммунизме, или тяготы их нынешней жизни, то почему к богатым эмигрантам надо относиться столь великодушно и возвращать им утраченную собственность?

По иронии судьбы, закон, поощряющий эти притязания, был проведен Социал-демократической партией (СДП), которая выступала против какой-либо реституции во времена своего правления в Румынии с 1989 по 1996 годы. В 1995 году она провела очень ограниченный закон о возвращении прав собственности бывшим владельцам, жившим в своих старых имениях на правах арендаторов.

Вскоре после того, как президент Ион Илиеску и его коллеги по СДП вернулись к власти в этом году, был проведен закон о повсеместной реституции. Конечно, старое социалистическое недоверие к частной собственности оставалось в силе, но правительство понимало, что если оно не возьмется за старые требования о возвращении прав собственности, переговоры о членстве в Евросоюзе не продвинутся вперед.

Эта проблема не вызывала значительного общественного резонанса до тех пор, пока бывший король Михаил, свергнутый со своего трона коммунистами в молодом возрасте, не зарегистрировал свои притязания на замок Пелес, красивый дворец, построенный его предком, королем Чарльзом I, на склоне горы в конце 19 столетия в качестве зимней резиденции. Этот королевский поступок ошеломил правительство, так как за неделю до этого бывший король и президент Илиеску появлялись рядом на публике и разговаривали о «национальном примирении».

При этом старый враг королевской власти президент Илиеску (обратив внимание на популярность бывшего короля Болгарии Симеона, который недавно был избран премьер-министром) предоставил королю Михаилу виллу согласно дипломатическому протоколу и пытался задобрить теперь уже пожилого экс-короля, чтобы тот одобрительно отнесся к его правительству. Но эта добрая воля быстро испарилась, после того как королевская семья потребовала возврата замка Пелес.

Премьер-министр Адриан Настаси теперь говорит, что государство не может себе позволить передать право владения национализированной собственностью и переместить службы общего пользования, такие как больницы или детские дома. Но отказ от своего собственного закона может навредить репутации правительства и дома, и в Евросоюзе. Более того, если только король Михаил или любой другой заявитель на право собственности решит, что с ним обошлись несправедливо в деле о реституции, он может обратиться в Суд Европейских Сообществ, и если последний примет решение не в пользу правительства, это может нанести сокрушительный удар по и так уже испорченному имиджу страны.

Конечно же, оппозиционные политики пытаются нажить капитал на бедах правительства. Крайне националистическая партия «Великая Румыния» потребовала аннулирования этого закона. Добиваясь противоположного результата, мэр Бухареста и лидер левоцентристской Демократической партии Траян Базеску начал возвращать спорную собственность, стремясь таким образом помешать правительству. Большой отель в Бухаресте был возвращен на бумаге своим довоенным владельцам, хотя до этого он был продан государством своим политическим друзьям.

Опросы общественного мнения показывают, что большинство румын против возврата крупной собственности наследникам ее первоначальных владельцев. И частники-крестьяне, и мелкие домовладельцы в больших и малых городах, по-видимому, проводят разграничительную линию между малой и «законной», частной собственностью и крупной собственностью, которая по своей природе кажется им сомнительной. В этом вопросе старая «классовая борьба», кажется, живет и здравствует.

«Неумершие», возможно, не существуют как вампиры, но зато, по-видимому, существуют в форме непогребенной ненависти.

**© Project Syndicate**

# Незаўважны дызайн

*З 11 верасня ў выставачным павільёне НВЦ БЕЛЭКСПА па вуліцы Я.Купалы, 27 праходзіць досыць новая для вока беларускага абываццеля выстава італьянскага дызайну, якую агульнымі намаганнямі арганізавалі Беларускі саюз дызайнераў, італьянскае пасольства і Нацыянальны выставачны цэнтр БелЭКСПА з дапамогай спонсараў.*

Гэта найперш культурніцкая акцыя без аніякіх камерцыйных мэтаў, таму літаральна задарма на працягу дваццаці дзён кожны ахвотны на ўласныя вочы зможа пабачыць 45 экспанатаў, якія ў свой час былі ўзнагароджаныя самай прэстыжнай прэміяй у галіне дызайну ў Італіі «Залаты цыркуль», заснаванай у 1954 годзе. У гістарычную калекцыю прэміі трапілі разнапланавыя аб'екты ад рэчаў побытавага спажывання, спартовых прыладаў да транспартных сродкаў і варштатаў.

Як акрэсліў мэты правядзення гэтай выставы старшыня Беларускага саюза дызайнераў Зміцер Сурскі, «у нашай краіне вельмі важна папулярызаваць дызайн, паколькі ўласнага дызайну тут мала. Гэткім чынам мы на чужых дасягненнях і поспехах спрабуем растлумачыць тым, хто прымае рашэнні ў эканоміцы, палітыцы, што без дызайну немагчыма зрабіць прадукцыю якаснай і вырвацца з эканамічнага заняпаду».

Канкурэнцыя – гэта галоўны рухавік дызайну: у каго прывабней тавар, той і перамагае ў барацьбе за пакупніка. Такія правілы гульні стымулююць пошук новых дызайнерскіх ідэяў. Усё ўзаемазвязанае. У беларускіх рэаліях гульні ў канкурэнцыю пацiху сціхаюць, а разам з тым становіцца незапатрабаваным і дызайн. Дакладней кажучы, як у спалучаных пасудзінах: выціснутае рынкавым сацыялізмам «перацякае» праз усходнюю мяжу ў больш спрыяльныя ўмовы.

На думку прэзідэнта Саюза дызайнераў, нават за савецкім часам узровень развіцця айчыннага дызайну быў вышэй за сучасны. Так, ён быў спушчаны зверху, калі ў краіну пачалі трапляць тавары замежнай вытворчасці, і навідавоку стала тое, што па якасці і знешнім выглядзе савецкія ім значна саступалі.

Тады, пасля прыняцця ў 1962 годзе ўрадам БССР пастановы «Аб паляпшэнні якасці прадукцыі машынабудавання і тавараў культурна-бытавога прызначэння шляхам укаранення метадаў мастацкага канструявання», на прадпрыемствах краіны пачалі ўводзіцца пасады мастакоў-канструктараў (тагачасныя дызайнеры) і цэлыя аддзелы тэхнічнай эстэтыкі, створаны Штаб прамысловай эстэтыкі, на базе якога ў 1966 годзе з'явіўся Беларускі філіял Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі (БФ УНДІТЭ), пачалі праводзіцца адмысловыя выставы.

Беларускі філіял інстытута тэхнічнай эстэтыкі спецыялізаваўся на праблемах у трактарабудаванні і адразу заняў лідзіруючыя пазіцыі ў сферы дызайну па ўсім колішнім Саюзе. На думку Зміцера Сурскага, нягледзячы на тое, што «тады не багата чаго было рэалізавана, і гэта мала паўздзейнічала на агульную эканамічную сітуацыю, але, тым не менш, гэты інстытут стаў культурніцкім аазісам у прафесійным асяроддзі, і свой след у культуры ён пакінуў». Грузавік МАЗ-2000 пад назвай «Перабудова», распрацаваны БФ УНДІТЭ, на міжнароднай аўтамабільнай выставе ў Парыжы ў 1987 годзе стаў сапраўднай сенсацыяй.

Але цікавасць да новых і арыгінальных дызайнерскіх ідэяў сціхала, ды і тавары з-за дэфіцыту на іх і так раскупляліся да апошняга, нягледзячы на іх знешні выгляд. Потым гэты эканамічны крызіс перарос у новы, паглыбіўся і зацягнуўся. У выніку — перайменаваны ў 1995 годзе ў Нацыянальны дызайн-цэнтр, інстытут сустракае сваё 35-годдзе ў цяжкім фінансавым становішчы.

Сённяшні дызайн у пераважнай большасці – гэта ўсяго толькі «бяздумнае перадзіранне замежных узораў і пластычных рашэнняў», штампаванне па ўсёй краіне аднастайнага «бялявага» еўрарамонту. Праявай сапраўднага дызайну гэта назваць цяжка. Дызайн кожнай краіны ўтрымлівае ў сабе адбітак нацыянальных асаблівасцяў і культуры. Без цяжкасцяў можна адрозніць больш



халодны і сціплы дызайн (як і архітэктуру) скандынаўскіх краінаў ад паэтычнага італьянскага ці прагматычнага нямецкага. Як і ўсё айчыннае мастацтва, наш дызайн задушаны мяшчанскім комплексам непаўнавартасці ўсяго беларускага.

Асноўны попыт на дызайнерскую працу сёння сканцэнтраваны там, дзе ёсць грошы, – у сферы паліграфіі, рэкламы, інтэр'ера. У прамысловасці, на прадпрыемствах ёсць альбо свой дызайнер, альбо для рашэння знешняга выгляду, напрыклад, спецтэхнікі, бывае, дастаткова густу інжынера. А майстэрства высакакласнага дызайнера неабходна там, дзе да знешняга выгляду вырабу ставяцца вельмі ўважліва, калі патрабуецца ягонае артыстычнае рашэнне (вялікагрузныя магістральныя аўтамабілі). Класічны прыклад такога майстэрства — гэта «Фольксваген-Жук», унікальная форма якога застаецца актуальнай ужо больш за 60 гадоў, ці плітка швейцарскага шакаладу «Таблерон», які з пачатку мінулага стагоддзя мае нязменны выгляд надрэзанай трохгранёвай прызмы і абавязкова ўтрымлівае разынкі і карамель.

Такія выбітныя распрацоўкі для нашай стагніруючай прамысловасці не па кішэні. Як любая творчая праца, дызайн патрабуе належнай аплаты. Прыкладам, мінімальныя стаўкі ўзнагароджання за распрацоўку таварнага знака – 100-200 долараў, а за інтэр'ер («пад ключ») — 10-20 долараў за квадратны метр. А ў тым выпадку, калі паміж дызайнерам і заказчыкам заключаецца ліцэнзійнае пагадненне, замест аднаразовай узнагароды ён мае права на атрыманне 2% ад сабекошту кожнай прададзенай рэчы, аўтарам рашэння знешняга выгляду якой ён з'яўляецца. Гэта мінімальны каштарыс, і, насамрэч, кошт кожнай працы могуць самастойна вызначаць аўтар і заказчык. Але наш заказчык пакуль не можа ўцяміць, што гэтая праца вартая такіх грошай. І нават большых, калі гэта тычыцца бізнесу.

Салідныя кампаніі, якім без прафесійнага дызайнера не абысціся, прытрымліваючыся стэрэатыпаў, аддаюць перавагу замежным спецыялістам як больш прафесійным і вядомым. І праігнараваныя айчынныя дызайнеры ў пошуках працы пакідаюць краіну.

Таксама ігнаруецца дзяржавай, але ад гэтага толькі ўзмацняе сваю актуальнасць сярод дызайнераў, праблема аховы аўтарскіх правоў. Дызайнерская распрацоўка можа ахоўвацца як нормамі аўтарскага права (з моманту стварэння), так і нормамі права прамысловай уласнасці (рэгістрацыя ў якасці прамысловага ўзору і атрыманне патэнта). Але працэдура рэгістрацыі вельмі доўгая і таму не зусім падыходзіць да распрацовак, якія хутка могуць састарэць, як напрыклад, у сферы лёгкай прамысловасці. Да таго ж нормы гэтага права ў адрозненне ад аўтарскага не забараняюць іншым «запазычваць» асобныя элементы запатэнтаванага ўзору. Таму аўтарскае права тут больш мабільнае і эфектыўнае, але...

Распрацоўшчыкі дзеючага закона «Аб аўтарскім праве і сумежных правах» палічылі, што дызайн не адносіцца да сферы мастацтва і выключылі яго з пераліку аб'ектаў, якія дакладна ўваходзяць у сферу дзеяння аўтарскага права. Цяпер кожны раз словы «і іншыя творы», папярэдне пакінутыя распрацоўшчыкамі ў артыкуле, даводзіцца трактаваць у тым ліку і як «дызайн», але на практыцы не кожны чыноўнік з гэтым згодны.

Як кажа Зміцер Сурскі, пакуль яму такія прыклады парушэнняў аўтарскіх правоў не вядомыя. Быў выпадак, калі на адну замежную выставу трапілі два амаль аднолькавыя плакаты, і тым не менш ніякіх скандалаў не было, а адзін з іх нават атрымаў прыз.

Не могуць замірыцца дызайнеры яшчэ і з тым, што адносна «службовага твора» (стварэнне якога ўваходзіць у кола яго працоўных абавязкаў) закон пазбавіў іх права даваць згоду на ягонае выкарыстанне і атрымліваць за яго аўтарскую ўзнагароду.

Пакуль супрацьстаянне паміж дызайнерамі і Камітэтам па аўтарскіх і сумежных правах не прыйшло ні да якіх вынікаў. Сфера дызайну з ейнымі праблемамі не заўважаецца ні дзяржавай, ні эканомікай. Нават для звычайных абываццеляў ягоныя праявы, акрамя рэкламы, застаюцца незаўважнымі. А між тым ці то газеты, часопісы і тэлебачанне, ці то халадзільнікі — паўсюль трэба рука дызайнера. Яны перамагаюць у міжнародных конкурсах, іх ведаюць у і нашых прафесійных колах, і за мяжой, іх запрашаюць працаваць у замежжы, але для нас іхнія працы застаюцца ананімнымі.

Па словах Зміцера Сурскага, «наіўна меркаваць, што дызайн – гэта лекі ад усіх эканамічных хваробаў. Але на самой справе пры пісьменным падыходзе, пры тым падыходзе, які існуе на Захадзе, ён можа стаць інструментам прасоўвання тавараў на рынку, асабліва што да тавараў народнага спажывання».

**Алена ЛАБАНАВА**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1760 Нумар падпісаны ў друк 13/09/2001 (15:00) Наклад – 10.270